


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

**ВЕРАСЕНЬ 2014 г.** **№ 8 (49)**


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Могилёвская область прощается с проводным радио.**

Переход на цифровое радиовещание подходит к завершению в Могилёвской области. Из 150 тыс. абонентов – 120 тысяч уже переведены на цифровое вещание. К 1 ноября текущего года проводной сигнал полностью исчезнет на территории региона. Исключение пока составит сам областной центр. Всё это предусмотрено соответствующей государственной программой.

**186 микро- и малых организаций насчитывалось в Шкловском районе** на 1 января 2014 года, из них осуществляли деятельность 150. За год количество организаций малого бизнеса, осуществлявших деятельность в районе, увеличилось на 39.

На микро- и малых организациях района в 2013 году было занято 851 человек, или 1,3% от численности работников малого бизнеса области.

**В Белыничском районе нашли мины и бомбу.**

1 сентября в лесном массиве вблизи д. Заозерье Белыничского района были обнаружены четыре 82-мм мины и авиационная бомба времен ВОВ. 2 сентября в 14-00 саперно-пиротехнической группой в/ч 72471 мины и бомба уничтожены.

**В 2014/2015 учебном году в учреждениях образования Круглянского района** будут обучаться 1622 учащихся, что на 4 больше, чем в прошлом учебном году. В первые классы школ района пойдут 157 детей (против 171 прошлого года), в одиннадцатые - 125 (против 89).Отмечается увеличение численности детей, посещающих детские сады (2013г. - 639, 2014г. - 665).

# УЛАДЫ ЗНОЎ ЗБІРАЮЦЦА ЗМАГАЦЦА З ПРЫПІСКАМІ

**Напрыканцы жніўня на пасяджэнні Магілёўскага аблвыканкама было разгледжана пытанне “Аб стане і мерах па барацьбе з карупцыяй у Магілёўскай вобласці у першым паўгоддзі 2014 года”. У шэрагу іншых праблем удзельнікамі пасяджэння была звернутая ўвага на тое, што ў рэгіёне фіксуецца шмат выпадкаў фальсіфікацыі статыстычнай справаздачнасці.**




У прыватнасці, шэраг праблем маецца ў АПК рэгіёна. Падчас праверак прадпрыемстваў аграпрамысловага комплекса ўстаноўленыя факты дачы незаконных указанняў аб унясенні заведама ілжывых звестак у статыстычную справаздачнасць. У выніку ўзбуджана 40 крымінальных спраў, фігурантамі па некаторых з іх сталі нават кіруючыя работнікі з Быхаўскага і Чавускага райвыканкамаў .

Выяўлены факты злоўжыванняў службовымі паўнамоцтвамі з боку пасадавых асобаў прадпрыемстваў АПК Магілёўскай вобласці, якія з асабістай зацікаўленасці афармлялі фіктыўныя дакументы аб рэалізацыі малака працаўнікам гаспадарак. Пры гэтым ужо ў ліпені адпаведная статыстычная справаздачнасць паказала зніжэнне вытворчасці малака к паўгоддзю мінулага года ў шэрагу раёнаў вобласці, асабліва ў тых, дзе супрацоўнікамі органаў унутраных спраў выяўлены прыпіскі: Чавускім, Бабруйскім, Краснапольскім і Быхаўскім.

Што ж, можна толькі

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ШКЛОЎСКІ РАЙВЫКАНКАМ ДАСЛАЎ АДКАЗ НА ЗВАРОТ ТОЛЬКІ ПАСЛЯ СКАРГІ Ў АБЛВЫКАНКАМ І ПРАКУРАТУРУ

**Грамадскі актывіст са Шклова, намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў 1 верасня нарэшце атрымаў адказ на свае звароты з Шклоўскага райвыканкама.**




У адказе за подпісам старшыні райвыканкама Аляксандра Бойкі актывісту паведамілі, што яго прапановы па размяшчэнні на будынку Шклоўскай гарадской ратушы шыльды з інфармацыяй аб важных гістарычных падзеях у жыцці Шклова, а таксама аб ініцыяванні стварэння свабоднай эканамічнай зоны на тэрыторыі Шклоўскага раёна, разгледжаны.

"Лісты, якія паступілі ў Шклоўскі райвыканкам 25 красавіка і 16 чэрвеня 2014 года, былі разгледжаны. Пытанне аб размяшчэнні на будынку ДУА "Гімназія г. Шклова" шыльды з інфармацыяй аб гістарычных падзеях 16-18 ст., у тым ліку і Магдэбурскім праве, будзе разгледжана дадаткова", - піша Аляксандр Бойка.

Сам Рыгор Кастусёў кажа, што ён абавязкова скарыстаецца агучанай у пісьме прапановай азнаёміцца з Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна на 2011-2015 гады, якую яму зрабіў старшыня Шклоўскага райвыканкама.

"Аляксадр Бойка ў сваім лісце чамусьці не піша пра тое, чаму ў парушэнне закона аб зваротах грамадзян мне не былі дадзены абгрунтаваныя адказы на мае звароты ў устаноўленыя законам тэрміны, - распавядае Рыгор Кастусёў. – Больш за тое, ён нават не прыносіць прабачэння за парушэнне тэрмінаў адказаў, што яскрава сведчыць пра тое, як насамрэч шклоўскія чыноўнікі ставяцца да зваротаў грамадзян. Пра што казаць, калі ліст аб разглядзе маіх прапаноў з Шклоўскага райвыканкама даслалі толькі пасля маіх зваротаў у пракуратуру Шклоўскага раёна і Магілёўскі аблвыканкам.

Што ж датычыцца сутнасці адказу, то я з задавальненнем азнаёмлюся з Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна на 2011-2015 гады, як мне прапануе Аляксандр Бойка. Мне будзе вельмі цікава паглядзець на тое, як "горад Шклоў і Шклоўскі раён устойліва развіваюцца ў адпаведнасці" з гэтай праграмай. Таксама я спадзяюся, што будзе станоўча вырашана пытанне аб размяшчэнні на будынку былой Шклоўскай ратушы шыльды з інфармацыяй аб важных гістарычных падзеях і Магдэбурскім праве, якім карыстаўся наш горад", - кажа Рыгор Кастусёў.

Нагадаем, што 11 жніўня Рыгор Кастусёў перадаў у Магілёскі аблвыканкам свой пісьмовы зварот на імя старшыні аблвыканкама Пятра Рудніка з прапановамі аб размяшчэнні на будынку Шклоўскай гарадской ратушы шыльды з інфармацыяй аб важных гістарычных падзеях у жыцці Шклова, а таксама з прапановай аб ініцыяванні стварэння свабоднай эканамічнай зоны на тэрыторыі Шклоўскага раёна. У звароце на імя старшыні аблвыканкама Рыгор Кастусёў паведаміў Пятру Рудніку, што ўжо двойчы звяртаўся па гэтым пытанні ў Шклоўскі райвыканкам, аднак ніякага адказу з гэтай дзяржаўнай установы так і не атрымаў.

Таксама 11 жніўня спадар Кастусёў асабіста звярнуўся ў пракуратуру Шклоўскага раёна са скаргай на дзеянні чыноўнікаў мясцовага райвыканкама, якія не выконваюць Закон аб зваротах грамадзян, - шклоўскія чыноўнікі так і не далі ніякага адказу на яго двухразовыя пісьмовыя звароты з прапановамі на імя старшыні Шклоўскага райвыканкама Аляксандра Бойкі.

*Барыс Вырвіч*

## КРИМИНАЛ В ШКЛОВЕ

17 августа Шкловским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 139 ч. 1 УК (Убийство) в отношении неработающего жителя г. Шклова, 1983 г.р., который 16 августа в г. Шклове по ул. Интернациональной, находясь в состоянии алкогольного опьянения, в доме неработающей, 1969 г.р., в ссоре, ударил ножом в грудь хозяйку, которая от полученных телесных повреждений скончалась на месте. Раскрыто СОГ. Задержан в порядке ст. 108 УПК.

21 августа следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающего жителя д. Городище, 1992 г.р., который в период с 15 по 21 июля с недействующего коровника в д. Благовка, похитил 62 тротуарные плитки стоимостью 6 416 628 руб. Похищенное изъято. Раскрыто СОГ, сообщает интернет-сайт uvd.mogilev.by.

# НЕЗАЛЕЖНЫ ЖУРНАЛІСТ ПАДАЎ КАСАЦЫЙНУЮ СКАРГУ Ў МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ СУД

**Магілёўскі журналіст, рэдактар газеты "Наш Магілёў" Ігар Барысаў накіраваў касацыйную скаргу ў Магілёўскі абласны суд.**

У сваёй скарзе Ігар Барысаў патрабуе адмяніць рашэнне суддзі суда Магілёўскага раёна Станіслава Лёўчанкі ад 12 жніўня 2014 года.

Незалежны журналіст лічыць, што рашэнне суда Магілёўскага раёна можа быць адмененае проста па фармальных прыкметах, бо ў судзе не не было ўстаноўлена, якую друкаваную прадукцыю ён перавозіў на сваёй машыне (улёткі, бюлетэні ці газеты), якія з пунктаў артыкула 17 закона "Аб СМІ" ён парушыў, а таксама тое, што пратакол судовага пасяджэння адрозніваецца ад матывіровачнай часткі пастановы суда.

Таксама Ігар Барысаў выказвае меркаванне, што рашэнне раённага суда супярэчыць як Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, так і нормам міжнароднага права, у адпаведнасці з якімі кожны грамадзянін мае права на свабоду перакананняў і свабодны распаўсюд інфармацыі.

Нагадаем, што 12 жніўня суддзя суда Магілёўскага раёна Станіслаў Леўчанка пакараў штрафам у памеры 30 базавых велічынь рэдактара газеты "Наш Магілёў" Ігара Барысава.

Суд прызнаў Ігара Барысава вінаватым у парушэнні Закона аб СМІ і незаконным распаўсюдзе друкаванай прадукцыі, хоць сам журналіст сцвярджаў, што ён не распаўсюджваў газету "Наш Магілёў" і бюлютэнь "Сацыял-дэмакрат", а проста перавозіў іх у асабістым аўтамабілі.

Ноччу 16 ліпеня аўтамабіль Ігара Барысава быў спынены супрацоўнікамі ДАІ каля вёскі Сумарокава Магілёўскага раёна. Разам з Ігарам Барысавым у аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін сябар ГА "БАЖ", вядомы беларускі палітык Рыгор Кастусёў.

Супрацоўнікі ДАІ паведамілі журналісту, што на яго аўтамабіль прыйшла арыенціроўка, нібы на ім здзейснена хуліганства ў Бялынічах. Пасля праверкі




дакументаў і агляду аўтамабіля машына была накіраваная ў РАУС Магілёўскага раёна для далейшага разбіральніцтва.

У РАУСе Магілёўскага раёна супрацоўнікамі міліцыі быў складзены пратакол апытання Ігара Барысава і пратакол агляду аўтамабіля. Знаходзячаяся ў аўтамабілі друкаваная прадукцыя была канфіскаваная. Усяго супрацоўнікі міліцыі забралі 11 800 асобнікаў газеты "Наш Магілёў" і бюлетэня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) "Сацыял-дэмакрат".

*Барыс Вырвіч*

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ПРЭЗЕНТАВАЛІ "АПОШНІ ЗОЛАК"

**28 жніўня ў Бялыніцкім раёне ў межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" адбылася прэзентацыя дыска "Апошні золак" і паказ анімацыйнага фільма "Выканаўца".**

Мерапрыемства адбылося ў прыватным доме ў аграгарадку Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна. Каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" Андрэй Палуда распавёў грамадскім актывістам Бялыніцкага раёна аб кампаніі, а таксама прэзентаваў дыск "Апошні золак", у межах якога вядомыя беларускія музыкі аб'ядналіся з песнямі супраць смяротнага пакарання.




Пасля гэтага грамадскія актывісты Бялынiччыны сумесна паглядзелі анімацыйны фільм "Выканаўца", які быў створаны творчай групай валанцёраў кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання". У фільме ставіцца пытанне пра жыццё і лёс людзей, якія з'яўляюцца выканаўцамі смяротных прысудаў і якія незаўважна жывуць побач з намі.

Андрэй Палуда таксама азнаёміў прысутных актывістаў з іншай відэапрадукцыяй, якая была зроблена ў межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання".

Напрыканцы сустрэчы ўсе яе ўдзельнікі атрымалі ў падарунак дыскі з песнямі праекта "Апошні золак".

*Ірына Беганкіна*

# ЛУКАШЭНКА МОЖА СТАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ПЕРШЫМ, АЛЕ І АПОШНІМ ПРЭЗІДЭНТАМ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

**Аляксандра Лукашэнку лічылі маладым прэзідэнтам: да ўлады ён прыйшоў, калі яму не было нават 40 гадоў. Цяпер першага прэзідэнта Беларусі маладым назваць складана нават пры вялікім жаданні: 30 жніўня яму споўнілася 60 гадоў і можна афіцыйна выходзіць на пенсію.**



*Аляксандр Лукашэнка*

Праўда, такога кроку ніхто ад Лукашэнкі не чакае. З амаль стопрацэнтнай упэўненасцю можно прагназаваць, што ён і надалей будзе чапляцца за ўладу і вылучыць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. На пытанне, ці гатовы землякі Лукашэнкі по Шклоўшыне бачыць у ім не прэзідэнта, а простага пенсіянера, “Товарищ.online” адказвае намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў.

– Вас і Лукашэнку шмат што звязвае па Шклоўскім раёне. Як успрымаюць звычайныя людзі свайго земляка пасля 20 гадоў прэзідэнцтва?

– Я добра памятаю, як успрыняла бальшыня шклаўчан перамогу свайго земляка на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. У першы ж дзень пасля іх правядзення ў Шклове каля музычнай школы (былы райкам партыі) адбыўся вялікі мітынг, дзе выступіў і Лукашэнка. У час яго выступу на вачах шматлікіх прысутных можна было пабачыць сапраўдныя слёзы “умиления”, вызваныя радасцю за яго перамогу на выбарах. З абраннем земляка на пасаду прэзідэнта шклаўчане звязвалі вялікія спадзяванні.

За 20-годдзе меркаванні многіх з іх аб першым прэзідэнце краіны кантрастна змяніліся. І нават тыя, хто плакаў ад радасці дваццаць год таму, могуць дазволіць у яго адрас не зусім прыемныя словы. Тыя ж, хто не дазваляе сабе ўжыванне нецэнзурнай лаянкі, кажуць, што ён іх проста падмануў і падманвае ўжо колькі год.

– Што гавораць пра Лукашэнку тых часоў, кал ён яшчэ не стаў прэзідэнтам?

– Аб дапрэзідэнцкім перыядзе жыцця Лукашэнкі на Шклоўшчыне нярэдка гучаць цалкам супярэчлівыя распаведы. Яго жыццяпіс у вачах землякоў аброс шматлікімі “легендамі”. Слухаючы таго або іншага чалавека, нярэдка можна пачуць цалкам неімаверныя гісторыі. І ўжо часта бывае, што недасведчанаму ў яго біяграфіі чалавеку не магчыма разабрацца, дзе гучыць праўдзівая гісторыя, а дзе – чарговая легенда. А расказваюць аб ім усялякае, як становучае, так і адмоўнае.

– З Магілеўскай вобласці выйшла шмат кіраўнікоў. Чым так вылучаецца гэты край?

– Так, за часы прэзідэнцтва Лукашэнкі Магілёўская вобласць і асабліва Шклоўшчына сталіся сапраўднай кузняй кадраў для праўладнай вертыкалі. Прызначэнне на больш высокія пасады чыноўнікаў з Магілёўшчыны адбывалася напачатку ў асноўным па прызнаку ўзаемаадносін гэтых людзей з Лукашэнкам у дапрэзідэнцкі перыяд. А надалей ужо гэтыя чыноўнікі цягнуць за сабой сваіх людзей. Вось так і сфармаваўся своеасаблівы магілёўска-шклоўскі клан.

– Лукашэнку спаўняецца 60 гадоў. Як успрымуць яго землякі простым пенсіянерам?

– Мяркую, што ў 60 год дзеля чарговага папулісцкага кроку Лукашэнка адмовіцца ад афармлення пенсіі. І гэта будзе паднесена грамадзянам краіны, у тым ліку і шклаўчанам, так, што ён па стане здароўя яшчэ здольны шмат год выконваць абавязкі кіраўніка краіны. І яго землякам, як і ўсім беларусам, у чарговы раз прыйдзецца толькі памацюкаца на сваіх кухнях і зноўку чакаць чарговай прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2015 года.

– Вы, як адзін з кіраўнікоў апазіцыйнай партыі, што думаеце пра 20 гадоў кіраўніцтва Лукашэнкі? Што не толькі дрэннага, але і добрага ён зрабіў за 20 гадоў свайго прэзідэнцтва?

– У першыя гады яго прэзідэнцтва мне зрэдку падавалася, што ён сапраўды імкнецца ўзняць на належны ўзровень эканоміку краіны, усталяваць выканаўчую дысцыпліну ў шэрагах разнастайнага чынавенства, зліквідаваць карупцыю.

Але, на жаль, гэта аказалася проста марамі.

Усе гэтыя 20 год беларуская эканоміка трымалася на замежных крэдытах, памеры якіх узраслі да неймаверных велічынь. За гэтыя крэдыты, часткова патрачаныя на падтрымку беларускай эканамічнай мадэлі, часткова раскрадзеныя, ужо прыйдзецца разлічвацца нашым дзецям і ўнукам.

Узровень прафесійнай падрыхтоўкі чынавенства, кіраўнікоў розных узроўняў, іх выканаўчая дысцыпліна за гэтыя гады значна панізіліся, пры тым, што колькасць чынавенства ўзрасла.

А самае страшнае, што за 20

*(Заканчэнне на стар. 5)*

# ПРА ПОДЗВІГІ І ПАТРЫЯТЫЗМ

**Апошнім часам шэраг маіх добрых знаёмых і нават блізкіх сяброў выказвае непрыкрытае захапленне подзвігамі вялікай расійскай арміі, якая, разам з гераічнымі апалчэнцамі, дубасіць “хахлоў-пендосаў” на Данбасе.**

Па маіх родных Бялынічах, ды і па іншых населеных пунктах нашага рэгіёна, катаюцца дзесяткі, калі не сотні, аўтамабіляў з “каларадскімі” стужкамі і расійскімі сцяжкамі. Чэсна кажучы, у староннягa назіральніка нават можа скласціся ўражанне, што прыхільнікаў “вялікай Расіі” і “рускага міра” у нас вельмі шмат. Прычым ёсць сярод іх дзяржаўныя чыноўнікі, супрацоўніікі праваахоўных органаў, настаўнікі і г. д.

Што ж, кожны мае права на ўласныя погляды і меркаванні. Аднак слаўным патрыётам “рускага міра” з нашага рэгіёна хацялася б нагадаць, што яны жывуць усёткі ў краіне пад назвай Беларусь і, па вызначэнню, незалежна ад нацыянальнасці, павінны быць патрыётамі сваёй краіны. Калі ж вы лічыце, што вялікая Расія вам бліжэй да сэрца, - калі ласка, наперад, Расія сапраўды вялікая, месца там усім хопіць. Будзе магчымасць вам (альбо вашым дзеткам і ўнучыкам) уступіць у слаўную расійскую армію, а там і паваяваць далей у Украіне, ці дзе-небудзь яшчэ, Расія ж шмат дзе ваюе. Калі што, пазней пахаваюць дзе-небудзь пад плотам без пазначання імя, як пахавалі ўжо сотні “невядомых” салдат, бо Расія, як вядома, у вайне ў Украіне не ўдзельнічае.




Але, магчыма, вам альбо вашым дзецям пашчасціць, і вы проста застанецеся калекай на ўсё астатнее жыццё, будзеце пасля прасіць міласціну каля маскоўскага метро, як гэта робяць дзесяткі ветэранаў чачэнскай вайны. Затое ў вас застанецца маральнае задавальненне, што вы пашырылі межы “рускага міра” і што, дзякуючы вашым подзвігам, расейскія мільярдэры змогуць набыць яшчэ больш нерухомасці ў “пендоскай” Еўропе, а таксама добра адпачыць са шлюхамі ў Куршавэле.

Праўда, мільярдэры ў вялікай Расіі чамусьці амаль спрэч яўрэі, аднак усё-роўна ж яны яе вельмі любяць. У асноўным на адлегласці, бо самі стала пражываюць разам з дзеткамі ў “пендосаў” у Еўропе ці ў “загніваючых” Штатах.

Існуе вялікая магчымасць, што вашым слаўным дзеткам, якія будуць прызваныя ў непераможную расійскую армію, нават у баях удзельнічаць не давядзецца – і так свае саслужыўцы “угрохаюць”, папярэдне паздзекаваўшыся. Патрыётам вялікай Расіі раю зазірнуць у інтэрнэт і паглядзець, колькі сотняў людзей гіне ў расійскім войску штогод пры нявысветленых абставінах.

Таксама хачу нагадаць слаўным расійскім патрыётам, што гэта не Украіна адабрала ў Расіі Крым, парушыўшы ўсе магчымыя дамовы. І не ўкраінскія салдаты ваююць дзе-небуць у Тамбоўскай альбо Растоўскай губерніі, а якраз наадварот.

Ну і зноў жа, для вас, беларускія патрыёты Расіі, друкую матэрыял з самага што ні на ёсць расійскага не апазіцыйнага сайта пра парадкі ў расійскай арміі (чытайце на старонцы 6-7). Жадаю вам, каб вашы мары збыліся, і вы асабіста (альбо вашы дзеткі і ўнукі, калі самім узрост не дазваляе) змаглі абараняць інтарэсы вялікай Расіі ў яе войску. Можна нават не ў Украіне.

Ну а патрыёты Беларусі няхай жывуць у Беларусі, і будуць заўжды гатовы абараніць свабоду і незалежнасць сваёй краіны ад любых агрэсараў – як з Захаду, так і з Усходу.

***Іван Барысаў***

## Лукашэнка можа стаць не толькі першым, але і апошнім прэзідэнтам незалежнай Беларусі

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

год свайго прэзідэнцтва Лукашэнка паставіў Беларусь на мяжу існавання як незалежнай краіны.

Гандлюючы нацыянальнымі інтарэсамі, ён пакуль што забяспечвае захаванне ў Беларусі дзеючага рэжыму, створанага ім разам з паплечнікамі. Але падобны гандаль можа прывесці да таго, што ў гісторыі незалежнай Беларусі ён застанецца не толькі першым, а і апошнім прэзідэнтам.

***Сяргей Паўлоўскі, “Товарищ.online”***

## Так и сказал

Россия, не имеющая ни какого отношения к Руси и получившая свое название в лучшем случае в XVIII веке, тем не менее - нагло претендует на историческое наследие Руси, созданной на восемьсот лет раньше. Однако Московская история пришита к истории Руси белыми нитками и полностью сфальсифицирована.

***Карл Маркс***

# В СЕВЕРНОЙ ОСЕТИИ СОЛДАТЫ-СРОЧНИКИ, КОТОРЫЕ ДОВЕЛИ ИЗНАСИЛОВАННОГО СОСЛУЖИВЦА ДО САМОУБИЙСТВА, ПОЛУЧИЛИ ПО 3 ГОДА КОЛОНИИ

**Владикавказский гарнизонный военный суд вынес приговор двум рядовым срочной службы, причастным к жестоким издевательствам над солдатом. Потерпевшего изнасиловали и довели до суицида, а его предсмертную записку сожгли.**

По решению суда рядовой Антон Салтыков проведет за решеткой три года. Его подельник Вячеслав Антонов получил 2,5 года лишения свободы. Отбывать наказание они будут в исправительной колонии общего режима, сообщает официальный сайт ГВСУ СК РФ.



Как следует из материалов дела, потерпевший Леонид Леонидов (имя и фамилия изменены по просьбе его матери) проходил службу в военной части N66431 (4-я гвардейская военная база). Издевательства над ним начались с мая 2013 года, а их инициатором был младший сержант Андрей Кабанов, в отношении которого ведется отдельное уголовное производство.

По версии следователей, Кабанов был недоволен тем, что Леонидов во время учений находился на стационарном лечении в военном госпитале. Из-за этого он решил наказать “симулянта” и создать для него невыносимые условия прохождения военной службы.

Кабанов подговорил Салтыкова и Антонова, чтобы они избивали Леонидова и унижали его. Те с удовольствием согласились и издевались над жертвой как вместе с Кабановым, так и без него.

В одном из эпизодов дедовщины, относящемся к 24 августа, Антонов и Кабанов отняли у Леонидова 6 тысяч рублей, поделив добычу поровну. Кроме того, они отобрали у солдата мобильный телефон, за возврат которого требовали 2 тысячи рублей, угрожая в противном случае уничтожить трубку.

Постепенно пытки становились все более частыми и изощренными. Наконец, 31 августа 2013 года около 2:30 Кабанов насильно завел Леонидова в “кунг” автомашины, где избил его и изнасиловал в различной форме.

Один из военнослужащих видел после этого плачущего Леонида, который держал веревку. Он спросил у него, что случилось. “Надо мной надругался Кабанов”, - ответил солдат.

Затем Леонидов сел писать предсмертные записки, а его сослуживец “завалился спать”. Примерно через два часа после изнасилования потерпевший повесился, сообщала в своем блоге на радиостанции “Эхо Москвы” председатель правления фонда “Право матери” Вероника Марченко.

Во время судмедэкспертизы, помимо странгуляционной борозды, были обнаружены кровоподтеки в области грудной клетки и конечностей, а также ссадины на лбу и в области коленного сустава. В прямой кишке и ротовой полости патологоанатомы нашли сперматозоиды. Проведенная генетическая экспертиза позволила установить личность насильника.

Отметим, что офицерский состав части 66431 не только не помогал в расследовании, но и пытался скрыть улики. Командиры говорили, что “ничего не видели” и “ничего не слышали”, а один из них сжег предсмертную записку, в которой Леонид назвал виновных в своей гибели лиц. И только потому, что юноша написал две предсмертных записки, эту информацию удалось донести до следователей и общества.

После задержания Салтыкову и Антонову инкриминировали ч. 3 ст. 335 (“Нарушение уставных правил взаимоотношений между военнослужащими при отсутствии между ними отношений подчиненности, сопряженное с насилием, повлекшим тяжкие последствия”), ч. 5 ст. 33 и п. “а, в” ч. 3 ст. 286 (“Пособничество в совершении должностным лицом действий, явно выходящих за пределы его полномочий, с применением насилия и причинением тяжких последствий”), ч. 1 ст. 163 (“Вымогательство”), п. “а, г” ч. 2 ст. 161 (“Грабеж, совершенный группой лиц по предварительному сговору, с угрозой применения насилия, неопасного

*(Окончание на стр. 7)*

## В СЕВЕРНОЙ ОСЕТИИ СОЛДАТЫ-СРОЧНИКИ, КОТОРЫЕ ДОВЕЛИ ИЗНАСИЛОВАННОГО СОСЛУЖИВЦА ДО САМОУБИЙСТВА, ПОЛУЧИЛИ ПО 3 ГОДА КОЛОНИИ

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

для жизни и здоровья") УК РФ.

Оба военнослужащих заключили досудебное соглашение. Им гарантировали рассмотрение дела в особом порядке (в течение часа, без вызова свидетелей), а также мягкое наказание (не больше половины максимального срока, предусмотренного законом). Интересы родителей потерпевшего не волнуют ни одну из сторон такой сделки. Соглашение было утверждено военным прокурором в/ч 28072 подполковником юстиции А.Ю. Жилиным.

Мать погибшего Леонида Леонидова настаивала на нормальном судебном разбирательстве, но против выступили и прокурор Балахнин, и защитник подсудимых Роматов. Судья Сергей Горелов после совещания в удовлетворении ходатайства матери отказал.

"Это история из тех, что развенчивает расхожий миф, что армейская "школа жизни" делает из парней "настоящих мужчин", - писала Вероника Марченко. - "Настоящий мужчина" изнасиловал солдата, которым командовал. "Настоящие мужчины" врали, ссылаясь на плохую память, потому что всем своим "настояще-мужским" сообществом боялись нескольких подонков. "Настоящий мужчина"-офицер сжег предсмертную записку повесившегося от отчаяния парня. Материалы дела не засвидетельствовали ни одного настоящего мужского поступка хоть кого-то из среды, в которую попал для прохождения военной службы Леонид Леонидов".

Правозащитники отмечают, что в войсковой части 66431 регулярно гибнут солдаты. По словам матери другого погибшего Розы Маркаровой, в период с апреля по ноябрь 2013 года там же погибли еще четверо военнослужащих, не считая Леонидова: в том числе Кирилл Шлыков, Сергей Гоготов и Игорь Матвеев.

***newsru.com***

## В КРУГЛЯНСКОМ РАЙОНЕ СТАЛО МЕНЬШЕ УЧРЕЖДЕНИЙ ОБРАЗОВАНИЯ

К 1 сентября в Круглянском районе закрыт межшкольный учебно-производственный комбинат трудового обучения и профессиональной ориентации учащихся. Кроме того, произошла реорганизация Запрудского УПК в форме преобразования его в детский сад. Для 5 учащихся закрывшейся школы организован подвоз в Комсеничский УПК. Всем работникам, желающим остаться работать в нашей системе, предложены рабочие места в других учреждениях образования.

## ПАМІРАЕ БОЛЬШ, ЧЫМ НАРАДЖАЕЦЦА

Па інфармацыі Бялыніцкага раённага аддзела ЗАГС у студзені-жніўні 2014 года на Бялынiччыне нарадзілася 175 дзяцей, за адпаведны перыяд у 2013 годзе нарадзілася 172 немаўлятаў.

На працягу васьмі месяцаў бягучага года зарэгістравана 124 шлюбы, што на 2 больш, чым у студзені-жніўні 2013 года.

З пачатку 2014-га года ў Бялыніцкім раёне з жыцця пайшлі 294 чалавекі, за аналагічны леташні перыяд памерла 316 жыхароў Прыдрутчыны.

## НА ДАНБАСЕ ЗНІШЧАНА ЦЭЛАЯ РОТА ПСКОЎСКІХ ДЭСАНТНІКАЎ

**Пра гэта паведамляе газета "Псковская губерния".**

Выданне змясціла расшыфроўку размоваў двух пскоўскіх дэсантнікаў. З іх вынікае, што ў выніку ўдару ўкраінскай артылерыі па калоне пскоўскіх дэсантнікаў на Данбасе загінулі альбо былі параненыя амаль усе салдаты 1-й роты.

Нагадаем, расійскае кіраўніцтва дагэтуль не прызнае ўдзел сваіх войск у вайне на Данбасе. Украінскія сілавікі заяўляюць, што налічылі да 15 тысяч расійскіх вайскоўцаў, якія перайшлі мяжу і знаходзяцца ў Луганскай ды Данецкай абласцях. А 2 тысячы расійскіх вайскоўцаў, нібыта, ужо загінулі.

***Еўрарадыё***

## ВСЁ БОЛЬШЕ САМОУБИЙСТВ

В Могилевской области за шесть месяцев 2014 года 131 человек покончил жизнь самоубийством, сообщил 2 сентября на пресс-конференции начальник Управления Следственного комитета по региону Александр Ракусов.

"Подавляющее большинство суицидов — 85% — совершено лицами, злоупотребляющими спиртными напитками. Среди причин самоубийств стоит также назвать психические и иные тяжелые заболевания, а также конфликты с близкими", — отметил глава областного УСК.

По его словам, одной из особенностей суицидов в Беларуси является большой разрыв между их числом в городе и на селе. В сельской местности самоубийства совершаются в 2,5 раза чаще, чем в городских условиях проживания.

# УЛАДЫ ЗНОЎ ЗБІРАЮЦЦА ЗМАГАЦЦА З ПРЫПІСКАМІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

парадаваццa таму факту, што чыноўнікі з Магілёўскага аблвыканкама нарэшце звярнулі ўвагу на шматлікія прыпіскі ў сельскагаспадарчай галіне Магілёўскай вобласці. Праўда, мне асабіста не зусім зразумела, чаму ў якасці парушальнікаў статыстычнай справаздачнасці называюцца прадстаўнікі толькі некалькіх раёнаў Магілёўскай вобласці. Паверце мне на слова, прыпіскі даўно ўжо ператварыліся ў сістэму і існуюць у вобласці практычна паўсюдна. Спытайцеся ў любога спецыяліста сельскагаспадарчага прадпрыемства і яны вам з задавальненнем распавядуць пра тое, як тыя ж райвыканкамаўскія чыноўнікі прымушаюць іх “маляваць” прыгожыя лічбы неіснуючых надояў, прывагаў, ураджайнасці збожжа і іншых сельскагаспадарчых культур. Ну а пасля бедныя жывёлы вымушаны “з’ядаць” і “выпіваць” цэлую процьму існуючых толькі на паперы кармоў. Праўда, чамусьці нашы слаўныя супрацоўнікі праваахоўных органаў Магілёўшчыны не вельмі звяртаюць увагу на тое, колькі ж малака выпіваюць цяляты і колькі канцэнтратаў з’ядаюць каровы ў асобных гаспадарках. Ды і на тое, колькі збожжа застаецца ў сусеках пры заўленай высокай ураджайнасці пасля “усушкі і ўтрускі”, - у многіх гаспадарках ужо ў лютым-сакавіку не затанецца канцэнтратаў, паеврце мне на слова.

Што самае цікавае, пра гэта выдатна ведаюць чыноўнікі самых розных рангаў, аднак проста закрываюць на такія прыпіскі вочы – трэба ж выконваць прагнозныя паказчыкі. Таму асабіста я не вельмі веру, што дадзенае на пасяджэнні Магілёўскага аблвыканкама Пятром Руднікам даручэнне УУС працягнуць правядзенне праверак арганізацый АПК на прадмет выяўлення парушэнняў, звязаных з улікам сельскагаспадарчай прадукцыі, завышэннем вытворчых паказчыкаў, утойваннем нястач, прадстаўленнем скажонных дадзеных статыстычнай справаздачнасці дасць нейкі відавочны плён. Не дапаможа моцна нават прапанова старшыні аблвыканкама скасоўваць працоўныя кантракты з адказнымі асобамі ў выпадку знаходжання вышэйпералічаных фактаў, бо пакуль тыя факты знойдуць, а за выкананне прагнозных паказчыкаў райвыканкам і той жа аблвыканкам “душаць” кіраўнікоў і спецыялістаў практычна кожны дзень…




Тым больш, што паўтары тыдні таму адбылася калегія камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Магілёўскага аблвыканкама, на якой было адзначана, што за шэсць месяцаў 2014 года аграпрамысловым комплексам Магілёўскай вобласці было выканана толькі тры прагнозныя паказчыкі з васьмі: узровень рэнтабельнасці продажаў у сельскай гаспадарцы, выручкі ад рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі, тавараў і паслуг на аднаго сярэдняспісачнага працаўніка, і паказчык па энергазберажэнню. Застаўся нявыкананым галоўны паказчык - тэмп росту валавай прадукцыі ў гаспадарках усіх катэгорый. Больш за тое, зніжэнне вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі ў гаспадарках усіх катэгорый дапушчана ў сямнаццаці раёнах Магілёўскай вобласці з дваццаці аднаго…

Пастаўлена задача абавязкова выправіць існуючую сітуацыю ў трэццім квартале і да канца 2014 года. Ну а заданні высокага кіраўніцтва ў нас выконваць навучыліся.

Як вы думаеце, шаноўныя чытачы, ці будуць пасля гэтага ў АПК Магілёўскай вобласці прыпіскі?

***Сяргей Семяновіч***

**Анекдот дня**

Синоптикам, которые научились умело манипулировать словом «местами», удалось достигнуть практически стопроцентной точности прогнозов погоды.

В чем Вы храните свои сбережения?
— В мечтах..

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 04.09.2014 г. у 11-00.